*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 25(410) 23 ЧЭРВЕНЯ 1999 г.

# Таварыству беларускай мовы імя Францішка Скарыны 10 гадоў

## Старшыні ТБМ



Ніл Сымонавіч Гілевіч. Старшыня ТБМ з 1989 па 1997 год, народны паэт Беларусі, у 1990 рэдактар "Нашага слова". Нарадзіўся ў 1931 годзе ў в. Слабада Лагойскага раёна Менскай вобласці. У 1980-1989 першы сакратар праўлення СП БССР, у 1981-1991 сакратар праўлення СП СССР. З 1985 г. дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, з 1990 г. старшыня пастаяннай камісіі па адукацыі культуры і захаванні гістарычнай спадчыны.



Бураўкін Генадзь Мікалаевіч, старшыня ТБМ з 1997 па 1999 год, народны паэтБеларусі. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў в. Тродавічы Расонскага раёна Віцебскай вобласці. З 1972 гал. рэдактар часопіса "Маладосць", з 1978 старшыня Дзяржкамітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні. У 1990-1994 пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ААН. У 1994 - 1995 намеснік міністра культуры і друку Беларусі. З 1995 года ў часопісе "Вожык".



Трусаў Алег Анатолевіч, старшыня ТБМ з 1999 года кандыдат гістарычных навук. Нарадзіўся ў г. Мсціслаў Магілёўскай вобласці беларускі археолаг і гісторык архітэктуры.З 1988 начальнік аддзела Белрэстаўрацыйнага праектнага інстытута. З 1991 года намеснік старшыні камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі,культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Дацэнт Беларускага ўніверсітэта культуры.



### Дарагі Васіль Уладзіміравіч!

Усе, хто шчыра адданы мілай Бацькаўшчыне, хто свядома і глыбока шануе родную мову, даўно ведаюць і любяць Вас. Ваша выдатная творчасць, Ваша мужная грамадзянская пазіцыя ўжо шмат гадоў надаюць мільёнам суайчыннікаў упэўненасці ў шчаслівай будучыні Беларусі, у перамозе дабра, справядлівасці і розуму.

Ад усяе душы віншуем Вас са слаўным 75-і-годдзем, нізка кланяемся за Ваша самаахвярнае служэнне Радзіме, за Ваш рэдкі і чысты талент, за Вашу шматгранную грамадзкую дзейнасць. Дзякуем Вам за тое, што на цэлы свет праславілі Вы наш народ, што ў цяжкія часіны выпрабаванняў дапамагаеце яму захаваць высокую годнасць, непаўторную светлую душу.

Зычым Вам здароўя і яшчэ многіх творчых здабыткаў, вялікі пісьменнік, вялікі беларус, вялікі грамадзянін!

Хочам, каб Бог падарыў нам радасць яшчэ доўга быць разам з Вамі на святой і пакутнай нашай Зямлі.

Жыве Беларусь!

*Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.*



### ВІНШАВАННЕ УЛАДЫСЛАВА ЗАВАЛЬНЮКА, КСЯНДЗА-МАГІСТРА, ПРОБАШЧА КАСЦЁЛА СВЯТЫХ СЫМОНА І АЛЕНЫ

Дарагі Ойча! Прыміце шчырыя віншаванні з нагоды Вашага "залатога" юбілею і 25-годдзя душпастарскага служэння. Ваша высакародная і вельмі пачэсная праца па адраджэнні нацыянальнай культуры, духоўнасці, роднай мовы, а таксама святыні нашай Бацькаўшчыны – Беларускага Касцёлу заслугоўвае самай высокай адзнакі. Дзякуй Вам за высокае сумленне, нацыянальную свядомасць і грамадзянскую пацыю ў справе служэння свайму народу, нашай любімай Бацькаўшчыне.

Мілы ксёнжа, Вашае Слова, якое гучыць у радыёэфіры па нядзелях, чакаюць мільёны вернікаў, у тым ліку і праваслаўных. Голас Душы кранае сэрца кожнага, робіць нас лепшымі, светлымі і чыстымі.

Нас цешыць і тое, што Вы, дарагі Ойча, знайходзіце час на грамадскую дзейнасць і плённа працуеце разам з намі ў шэрагах сяброў Таварыства беларускай мовы, яго Цэнтральнай Радзе.

Зычым Вам моцнага здароўя, даўгалецця, поспехаў у капланстве. Няхай здзяйсняюцца нашыя агульныя мары па вяртанні народа да сваіх спрадвечных каранёў, нацыянальных традыцыяў, хрысціянскіх каштоўнасцяў.

Жыве Беларусь!

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.





# Гэтага нам ніхто не можа забараніць!

27 чэрвеня ТБМ адзначае сваё дзесяцігоддзе. За гэтыя дзесяць гадоў Таварыствам было зроблена вельмі шмат. Найбольш спрыяльнымі былі гады, калі дзяржава праводзіла, - праўда, вельмі нядоўга палітыку вяртання да нацыянальных крыніц. Але, на жаль, гэты перыяд хутка завяршыўся. У гады найбольш спрыяльныя для развіцця роднай мовы мы адчувалі, няхай не вельмі актыўнае, але спрыянне дзяржаўных устаноў. Фінансавалася газета "Наша слова" і іншыя беларускамоўныя выданні, дынамічна павялічвалася колькасць беларускіх класаў, паступова праводзілася праца па пераводу навучання ў вышэйшай школе на беларускую мову, актыўна ладзіліся курсы па вывучэнні беларускай мовы сярод дарослых, павольна, але выконваўся Закон аб мовах. Здавалася, што міне яшчэ колькі гадоў і заквітнее наша мова ва ўсіх сферах жыцця. Але ўсім нам вядома, што гэтыя працэсы гвалтоўна прыпынены. На нашых вачах руйнуецца сістэма беларускамоўнай адукацыі, актыўна русіфікуецца тэле- і радыёэфір, нават шыльды на галоўных адміністратыўных будынках краіны робяцца выключна на расейскай мове: напрыклад, на будынку Савета Міністраў. Паступова змяняецца малюнак выкладання гуманітарных дысцыплін у школах. Таварыства беларускай мовы вымушана супрацьстаяць гэтым працэсам. Поруч з акцыямі пратэсту, зваротаў у шматлікія дзяржаўныя ўстановы з нагоды парушэння лінгвістычных правоў беларускамоўнага насельніцтва мы мусім ствараць перадумовы вяртання роднай мовы ў жыццё грамадства. Кароткатэрміновая падтрымка дзяржавы на пачатку 90-х гадоў дала свой плён. Ужо паспела вырасці пакаленне маладых людзей, для якіх незалежная Беларусь і родная мова не пусты гук. У маладзёвым асяродку становіцца прыстыжна размаўляць па-беларуску, свабоднае валоданне беларускай мовай сярод іх ужо сведчыць аб высокім адукацыйным і інтэлектуальным узроўні. І узвышэнне сацыяльнага статусу беларускай мовы падчас татальнага ўціску на яе з боку ўладаў з'яўляецца вельмі абнадзейваючым знакам. У маладзёвых колах практычна ва ўсіх менскіх ВНУ студэнты самі ствараюць суполкі Таварыства беларускай мовы. Наша моладзь не чакае спрыяльных умоў. Яна даказвае, што можна плённа займацца адраджэннем у любых умовах. Таму ТБМ мусіць стаць цэнтрам распрацоўкі і выканання культурніцкіх праграм. Ужо зараз намаганнямі маладых беларусаў здзяйсняюцца праекты перакладу твораў сусветнай мультыплікацыі на беларускую мову. Сёння ў ТБМ можна прыдбаць відэакасеты "Прыгажуня ў сонным лесе" і "Аліса ў краіне цудаў". Студэнтамі (!) за свае грошы перакладзены і агучаны мастацкі фільм "Пяты элемент". Распрацоўваецца праект па выданню метадычных зборнікаў беларускіх песняў для дашкольных устаноў і навучэнцаў школ, зборнік беларускіх студэнцкіх песняў, выданне зборніка беларускіх шыхтовых песень. Бо ўсім вядома, што каланіяльнае эстэтычнае выхаванне нашых дзетак пачынаецца з садкоў і заканчваецца службай у войску. Рыхтуецца праект падтрымкі беларускіх эстрадных выканаўцаў і бардаў. Думаю, што ўсім нам надакучылі "Балаганы ...", ад якіх ломіцца расейскі эфір. Дагэтуль уладамі не вырашана пытанне аб адкрыцці Нацыянальнага універсітэта і хутчэй за ўсё і не вырашыцца. Таму ўжо зараз у ТБМ ідзе распрацоўка канцэпцыі стварэння недзяржаўнай нацыянальнай вышэйшай навучальнай установы. Сябрамі Таварыства вядзецца работа па стварэнні сучасных беларускамоўных кампутарных праграм. І спіс гэтых праектаў можна доўжыць і доўжыць. Але хачу звярнуць увагу на тое, што выкананне любога з гэтых праектаў вымагае фінансавых сродкаў. Так, напрыклад, затраты па выпуску відэакасеты па-беларуску складае 2,5 млн. рублёў – пры продажным кошце - 800 тыс., бо інакш беларускамоўная прадукцыя будзе неканкурэнтназдольная. Збор беларускіх песняў мяркуецца рассылаць па навучальных і іншых установах бясплатна, бо нашы садкі, бібліятэкі і школы і так знаходзяцца ў вельмі цяжкім матэрыяльным становішчы. Так і іншыя праекты ТБМ патрабуюць фінансавання. Як жа быць? Усё кінуць і, як тысячы іншых, сказаць, што такі наш лёс, такія неспрыяльныя ўмовы для ўсяго беларускага стварае дзяржаўнае кіраўніцтва? Мяркую, што не! Упэўнены, што мы павінны паглядзець на вопыт іншых народаў у іх змаганні за родную мову і незалежнасць. Пасля III падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе Польшча была падзелена на тры акупацыйныя зоны: расейскую, прускую і аўстрыйскую. Улады ўсіх трох краін-захопнікаў – хто ў большай, хто ў меншай ступені – праводзілі палітыку дэнацыяналізацыі палякаў, а таксама эканамічны ўціск. Так, напрыклад, у нямецкай акупацыйнай зоне шляхціч або селянін, які не мог выплаціць пазыку па якіх-небудзь абставінах, мусіў прадаваць сваю зямлю. Але па нямецкіх законах купіць яго зямлю меў права найперш немец. Ці не нагадвае гэта нашу сітуацыю, калі беларускія прадпрыемствы трапляюць у цяжкае матэрыяльнае становішча тады іх акцыі набываюць расейскія "зубастыя" кампаніі? Дык вось у тых цяжкіх эканамічных умовах палякі стваралі касы ўзаемадапамогі і дапамагалі сваім суайчыннікам сплаціць пазыку і не прадаваць чужынцам аніводнага кавалачка роднай зямелькі. У 1906 годзе палякі, якія не мелі сваёй дзяржавы, здолелі сабраць дастатковую колькасць грошай, каб узброіць армію Пілсудскага, якая размяшчалася ў найбольш "дэмакратычным" акупацыйным сектары. Пасля паразы паўстання 1863 года палякі зразумелі, што ўзброеная барацьба не заўсёды прыводзіць да жаданага выніку. Яна вырашылі, што трэба рыхтаваць сваю інтэлегенцыю, якая б па ўзроўні адукаванасці была б не горш за іншых. Яны знаходзілі сродкі, каб адпраўляць сваіх дзетак вучыцца ў самыя прэстыжныя універсітэты Еўропы. Пісьменнікі неіснуючай дзяржавы ў тыя гады здолелі стварыць найбольш яскравыя творы польскай літаратуры. Якраз у тыя, вельмі складаныя для польскага народа часы кожны паляк меў за гонар аддаваць каля 10 % свайго даходу на карысць польскай справе. Ці згадаем прыклады зусім блізкай гісторыі. Восемь гадоў таму сербскія ўлады скасавалі косаўскую аўтаномію і забаранілі навучанне на албанскай мове. Касавары на гэта стварылі сваю недзяржаўную сістэму адукацыі. І нават калі сербскія ўлады дазволілі навучанне па-албанску, але па сербскіх праграмах, тады касавары адмовіліся і восем гадоў сербскія школы ва ўсім Косава былі пустыя. І ўсё гэта было зроблена дзякуючы ахвяраванням сваіх жа албанцаў. А мы сёння не можам адкрыць ніводнай недзяржаўнай беларускамоўнай школы!

За апошнія два гады кіраўніцтвам ТБМ была праведзена вялікая падрыхтоўчая работа. Закончалася работа па структурызацыі арганізацый па ўсёй Беларусі. Зліквідаваны "мёртвыя" структуры, якія ў свой час ствараліся загадам зверху. Цалкам закончана работа па ўліку ўсіх сяброў ТБМ, створана электронаінфармацыйная база арганізацыі. Аднаўлена сувязь з замежнымі структурамі ТБМ. З ашчадбанкам "Беларусбанк" заключана дамова аб прыняцці ахвяраванняў і сяброўскіх складак праз любое з трох тысяч аддзяленняў банка па ўсёй Беларусі.

Зразумела, што вельмі цяжка зараз нашым сябрам, якія жывуць па-за межамі Менска. У многіх раёнах Беларусі на іх аказваецца ўціск, але заўсёды ёсць выйсце. Калі нават мясцовая ўлада паралізуе дзейнасць мясцовых арганізацый і іхнія мерапрыемствы па абароне роднага слова часта зрываюцца і не маюць плёну, заўсёды можна зрабіць хоць тое маленькае, што ніхто не можа забараніць: гэта схадзіць у любую ашчадную касу і пералічыць свае ахвяраванні на падтрымку нашых агульных праграм. 100 тысяч ад кожнага сябры ТБМ – і яшчэ адна мастацкая стужка перакладзена на беларускую мову! Яшчэ 50 тысяч – і 200 дзіцячых садкоў атрымаюць зборнікі беларускіх песняў...

З гэтай нагоды прыгадаю забытую беларускую традыцыю – талаку, калі разам нашыя продкі займаліся стваральнай працай дзеля сябе, дзеля сваіх дзетак, дзеля нас з вамі. Дык на талаку, спадарства!

*Кіраўнік справамі ТБМ*
*Сяржук Кручкоў.*

**27 чэрвеня імяніны сябру Рады ТБМ, вялікашаноўнага пробашча Чырвога касцёла ксяндза Уладыслава Завальнюка, ў незабаве спаўняецца 50 год. З гэтай нагоды "НС" вырашыла узяць у яго інтэрвію.**

**1. Скажыце калі ласка колькі слоў пра сябе.**

У 1974 закончыў духоўную семінарыю ў г.Рызе, атрымаў сьвятарскае пасьведчанне і быў скіраваны на працу ў Кішынёў, дзе з'яўляўся адзіным каталіцкім сьвятаром у Малдавіі на працягу 6-ці гадоў. Пасля быў адкліканы ў Латвію ў парафію Валмэра, адкуль быў накіраваны ў Казахстан, пасля зноў у Латвіі. У Гарбачоўскую адлігу дазволілі вярнуцца на Глыбоччыну, дзе абслугоўваў людзей з тэрыторыі аж да Масквы, святароў тыды было вельмі мала. У 1988 г. атрымаў блаславанне ад кардынала Рыгі на абслугоўванье парафіі ў Кальварыі. У гэты час ішло змаганне за вяртанне вернікам святыняў – Чырвонага Касьцёла, Катэдры, св.Роха. У 1990 г. быў вернуты Чырвоны касцёл. Акрамя іншай дзейнасці пры касцёле 11 вер.1993г. зарэгістравана радыёперадача "Голас Душы", шкада, што толькі 0,5 гадзіны маем, — толькі палова службы атрымліваецца.

**2. Чым для вас ёсць беларуская мова?**

Адраджэнне мовы патрэбна часу. Родная мова гэта ўсё. Мова гэта краіна, спадчына, культура. Родная мова гэта як паветра для чалавека. Няма мовы, няма народа.

**3. У Беларусі часта каталікоў атаясамляюць з палякамі, а каталіцызм з польскай верай, а таксама колькі слоў на конт мовы касцёла ў Беларусі.**

Веру нельга атасаямляць з нацыянальнасцю і зараз людзі гэта ўжо разумеюць, а гэты стэаратып прыдумалі палітыкі.

Да нядаўняга часу не друкавалася на Беларусі хрысціянская літаратура, людзі карысталіся старымі выданнямі польскіх малітоўнікоў, таму маліліся па польску. Зараз з'явілася такая літаратура па беларуску, таму адбываецца і пераход на беларускую мову. А калі чалавек лічыць сябе палякам, калі ласка, як у кожнай цывілізаванай краіне для меншасцяў ёсць храмы дзе адбываюцца набажэнствы на іх мове.

**4. Зараз існуе такое становішча, афіцыйным лічыцца так званы правапіс"наркомаўка", а касцёл карыстаецца "тарашкевіцай".**

У свой час з усіх існаваўшых граматык была прынята тарашкевіца, навошта яе было мяняць. Тарашкевіца больш мяккая, мілагучная, прыгажэй гучыць. Таксама лічу, што беларускай мове больш пасуе лацінскі шрыфт, ён падкрэслівае яе еўрапейскасць.

**5. 27 чэрвеня у храмах будзе праводзіцца малітва за беларускую мову, як вы ставіцеся да гэтай справы?**

Гэта вельмі моцная акцыя. Госпад сказаў "Дзе два ці тры сабраліся ў імя маё, там я сярод вас. Чым больш людзей будзе шчыра маліцца у гэты дзень разам, тым хутчэй госпад дапаможа вярнуць беларусам іх мову.

**6. Што б вы хацелі пажадаць народу Беларусі.**

Глыбіняў духоўных і карыстання з сёняшніх магчымасцяў наведвання святыняў богам дараваны нам час і момант. Толькі праз духоўнае адраджэнне, дзякуючы нашым святыням пан Бог будзе асьвячаць наша жыццё, кожнай сям'і і кожнага чалавека.

Слухайце "Голас душы" які нас аб'ядноўвае і заносіць просьбы народа да ўсявышняга.

*P.S. У канцы нашай размовы ксёндз пробашч Уладыслаў Завальнюк у гонар 10-ці годдзе ТБМ падараваў "НС" у маёй асобе дыктафон "Sanvo" з пажаданнямі плённай працы.*

*Алесь Гурыновіч.*



Ксёндз Уладыслаў Завальнюк. Здымак У. Кармілкіна.



# ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСКІХ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ

Шаноўнае спадарства!

Мы з вамі жывём у вельмі складаны час. Непамерныя падаткі, неспрыяльныя ўмовы для развіцця прыватнага бізнесу, негатыўнае стаўленне чыноўнікаў да прадпрымальніцтва, дарэчы, як і да нашай мовы …

Рэспубліканская непалітычная грамадская арганізацыя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выказвае сваю прыхільнасць і падтрымку айчынным прадпрымальнікам, выступае ў абарону роднай мовы, культуры і незалежнасці Беларусі.

Наша непалітычная грамадская арганізацыя, якая ставіць мэтамі развіццё нацыянальнай мовы і культуры, пачынаючы з 1989 года рэалізуе шматлікія навуковыя, асветніцкія, праваабарончыя праграмы ў гэтым кірунку. У сёняшні момант крызісу нацыянальнага адраджэння ТБМ застаецца верным абаронцам і прапагандыстам усяго беларускага.

У апошнія гады, у сувязі са спыненнем дзяржаўнай падтрымкі нацыянльнна-культурных праграм, галоўнай крыніцай фінансавання дзейнасці ТБМ з'яўляюцца ахвяраванні арганізацый і прыватных асобаў. ТБМ актыўна працуе над праграмай падтрымкі беларускіх школ, адкрыцця беларускага нацыянальнага універсітэта, стварэннем маладзёвых адукацыйных і культурніцкіх праграм. Вось ужо другі год, дзякуючы толькі прыватным ахвяраванням, выходзіць газета ТБМ "Наша слова". Мы не можам разлічваць на фінансавую падтрымку дзяржавы, таму звяртаемся да Вас з вялікай просьбай аб фінансавай дапамозе на дзейнасць Таварыства ў прымальным для Вас памеры.

Наш разліковы рахунак № 3015212330014 у Гардырэкцыі Белбізнэсбанка, код 764.

Ахвяраванні ад прыватных асобаў можна пералічыць праз любое аддзяленне ашчадбанка "Беларусбанк" з фармулёўкай: ахвяраванні на дзейнасць ТБМ.

Ваша ахвяраванне – гэта падтрымка роднай мовы і культуры, уклад у будучыню Беларусі.

Сакратарыят ТБМ.

# Беларускую мову вучаць у Маскве

У межах міждзяржаўных моўных зносін паміж Расеяй і Беларуссю кіраўніцтвам Маскоўскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта (МДЛУ) з 1 верасня 1998 года на **перакладчыцкім** факультэце было ўведзена выкладанне беларускай мовы. Менскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт, ВНУ – партнёр МДЛУ, плануе накіроўваць выкладчыкаў – філолагаў для правядзення заняткаў па розных аспектах курсу.

Студэнты вывучаюць беларускую мову па праграме другой замежнай, хоць фактычна яна з'яўляецца для іх трэцяй, бо яны авалодваюць таксама нямецкай і англійскай мовамі. Курс навучання разлічаны прынамсі на тры гады з нагрузкай 8-10 гадзін на тыдзень, што дазволіць студэнтам не толькі авалодаць асноўнымі маўленчымі навыкамі, але даць магчымасць падрабязна пазнаёміцца з культурай, літаратурай, асаблівасцямі нацыянальнага характару, традыцыямі і звычаямі беларускага народа.

Спецыялістамі кафедры беларускай мовы Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта актыўна распрацоўваюцца вучэбныя планы, праграмы, метадычныя матэрыялы, неабходныя для гэтага канкрэтнага курсу. Яны дазваляюць эфектыўна арганізаваць вучэбны працэс і вызначыць шлях развіцця такога новага і цікавага кірунку, як вывучэнне беларускай мовы ў якасці замежнай.

Першыя крокі ўжо зроблены: набытая некаторая метадычная, вучэбная, даведачная літаратура. Вынікі двух семестраў засведчылі, што студэнты ставяцца да такога наваўвядзення з вялікай цікавасцю, імкнуцца як мага больш даведацца аб жыцці, норавах і звычках беларусаў, цікавяцца беларускай паэзіяй і фальклорам.

У будучым асаблівую ўвагу плануецца надаць тэорыі і практыцы розных відаў прафесійнага перакладу, улічваючы профіль вучэбнай групы. А пакуль студэнты паспяхова авалодваюць лексікай, практычнай граматыкай, скарыстоўваюцца ў працэсе навучання і практыка пісьмовага і вуснага маўлення.

Варта адзначыць, што побач з беларускай, на перакладчыцкім факультэце акрамя 20 іншых замежных вывучаюць таксама ўкраінскую, польскую і летувіскую мовы.

Пачынаць новую справу заўсёды цяжка і пачэсна, яшчэ шмат давядзецца зрабіць у гэтым накірунку, дык будзем спадзявацца на шчаслівую будучыню гэтага пачынання. Пажадаем яму поспеха!

***Алена Будзіловіч,***
***выкладчык кафедры беларускай мовы і літаратуры Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта.***

# "Саюз" — не смуткаваў

Вельмі часта даводзілася чуць ад расейцаў: "Савецкі Саюз – наша вялікая Айчына". Многія беларусы праяўляюць у гэтым еднасць з расейцамі і лічаць СССР сваёй Радзімай. І ад расейцаў, і ад беларусаў аднолькава можна было пачуць смутак у сувязі з развалам Саюза. "Айчына развалілася на кавалкі", "народы, што так доўга жылі разам раздзеленыя нібы Берлінскім мурам" і г.д.

Канешне, мы, свядомыя беларусы ўспрымаем гэта па-іншаму. Але, можа, варта дапусціць, што гэта — іх шчырыя перакананні?

У шчырасці перакананняў згаданай часткі беларусаў я не сумняваюся, бо я (як і большасць сёняшніх свядомых беларусаў) сам раней належаў да іх і помню, што калісьці ў тое ж самае шчыра верыў сам. Іх перакананні шчырыя, бо яны, жылі ў акружэнні не сваёй, а расейскай культуры (ў адрозненні ад іншых народаў СССР). Яны вучыліся не па сваіх нацыянальных падручніках, а па тых, якія былі прызначаныя для тытульнай нацыі СССР (які ў свеце успрымаўся не інакш як Расея), для нацыі метраполіі СССР – для расейцаў. Зразумела, калі б яшчэ нейкі народ кіраваў жыццём беларусаў і навязваў ім сваю культуру (так было і пад Пілсудскім), то праз нейкі час беларусы таксама асіміляваліся, звыкліся да чужой культуры і згадзіліся б з агітацыяй акупантаў, што гэта родная для беларусаў культура.

Сёння беларусы таксама асіміляваныя, яны звыкліся да расейшчыны, іх можна зразумець, калі яны прымаюць расейскі погляд на жыццё. Таму ў шчырасці маіх асіміляваных суродзічаў я не сумняваюся.

А вось ці шчырыя тыя, з кім яны заўжды едныя, — расейцы? Пытанне можа здацца дзіўным – хіба можа быць, каб яны не былі едныя з беларусамі, калі беларусы едныя з імі? Аказалася, можна.

Як кажуць, сябры спазнаюцца ў бядзе. Апошнія падзеі паказалі ступень шчырасці тых расейцаў, якія заяўлялі: "Наша Айчына – СССР." Прынамсі, яны паказалі тое, якой Радзімай для іх з'яўляецца Саюз Беларусі і Расеі. Выбачайце, гэтая згадка можа быць недарэчнай, але гэтая падзея – трагедыя на "Нямізе", Тым часам, як уся Беларусь два дні смуткавала па загінулых, і з беларускіх ТВ і радыё знялі ўсе забаўляльныя праграмы (калі не наогул ўсе неінфармацыйныя), Расея працягвала круціць па сваіх каналах球 рознае блазнаванне. Канешне, улады і грамадзяне Расеі выказалі свае шчырыя глыбокія спачуванні, але ў гэтым яна праявіла сябе, як і ўсе іншыя замежныя краіны. Зразумела, я лічу Расею замежжам, але часам па старой звычцы я не ўспрымаю Расею чужой – дае пра сябе ведаць былая асіміляванасць. Так было і ў дні жалобы, калі я ўключыў тэлевізар. Я абураўся: "Як у такі дзень яны могуць круціць рознае блазнаванне!"-,забыўшыся, што Расея – замежная краіна, якой варта быць удзячным проста за спачуванні. Толькі потым я апомніўся, але тады я ўсвядоміў: расейцы ніколі не лічылі беларусаў суайчыннікамі, як многія беларусы лічылі імі расейцаў. І гэта толькі доказ таго, што ўся любоў гэтых беларусаў да Расеі засноўваецца на тым, што гэта ім ўнушалі самі расейцы. Іначай нашая бяда стала б іх бядой, і яны абвясцілі б жалобу ў сябе. Калі б для расейцаў Радзімай сапраўды быў Саюз, то трагедыя ў Менску была б трагедыяй у межах іх Радзімы. Гэтак не сталася, дарма што Саюз Беларусі і Расеі – ледзь не адна дзяржава, дарма што трагедыя ў Менску была б трагедыяй у межах іх Радзімы, дарма што трагедыя адбылася з "русскоязычными". Дык ці можна верыць у шчырасць "савецкіх патрыётаў" з Расеі? Чым для іх былі землі СССР – Радзімай ці ўладаннямі? Я заклікаю ўсіх маіх суайчыннікаў падумаць, ці варта верыць заклікам расейцаў "Наша Радзіма – СССР"? Што хаваецца за іх фразамі пра агульную Радзіму, калі падзеі ў Беларусі не з'яўляюцца агульнымі і для іх.

***Віталь С., студэнт.***

# А ў Расеі бел-чырвона-белы сцяг не забаронены







З 4-га па 6-е чэрвеня Лідская дэлегацыя на чале з У. Абрамчыкам брала ўдзел у 7-мым міжнародным мотафестывалі ў Малаяраслаўцы пад Масквой, які сёлета сабраў 4 000 матацыклаў з усіх краін былога СССР, а таксама з краін далёкага замежжа. З Беларусі было каля 20 матацыклаў, у тым ліку з Ліды, Гомеля, Пінска. Толькі гамяльчане паспрабавалі падняць лукашэнкаўскі сцяг. Справа дайшла ледзь не да бойкі. Урэшце беларусы ўвесь фестываль і заключны мота - парад (здымак унізе) правялі пад нацыянальным сімвалам. Як паведаміў спадар Абрамчык, яны паднялі бел-чырвона- белы сцяг адразу пасля перасячэння мяжы з Расеяй, і на кожным прыпынку тлумачылі расіянам, што ў беларусаў свой сцяг, а ў Лукашэнкі свой.



У выставачнай зале Рэспубліканскага экалагічнага цэнтра навучэнцаў адкрылася выстаўка работ майстроў-рэзчыкаў Юрыя Адамовіча, Уладзіміра Кубрына і Анатоля Маголіна "Узвышанае-зямное".

Тры аўтары – тры творчыя почыркі. Калі Юрый Адамовіч спалучае цёплыню дрэва з халодным металам чаканкі, то Уладзімір Курбан у сваіх мазаічных карцінах і прыгожых пудэлачках шукае тонкае спалучэнне розных парод драўніны. Выключна шырокая творчая палітра Анатоля Маголіна. Ён бачыць і максімальна раскрывае магчымасць дрэва. Часам ўмяшанне разца майстра мінімальнае, але гэта не перашкаджае стварэнню вобраза. У Анатоля атрымліваецца ўсё – ад прыгожай мэблі да скульптуры і своеасаблівых карцін.

На здымку: А.Маголін "Асветнік"

Фота Яўгена Казюлі. БЕЛТА. – О – ТА/тм





# Эфекты каланіялізму

***Біццю няма канца. Кітайцы забралі ў нас свабоду. Краты ў вокнах і жалезныя дзверы. У тур-мах Тыбету кітайцы маюць для нас толькі катаванні. Дзе хаваецца свабода, якая некалі была нашай?***

***(Фрагмент з песні, якую спявала жанчына ў турме ў Джапчы.)***

У гэтым годзе споўнілася сумная гадавіна - 40 гадоў ад часу разгрому паўстання жыхароў Тыбету супраць кітайскіх уладаў. У 1950 годзе армія Кітаю захапіла Тыбет і пачала сістэматычнае знішчэнне яго насельніцтва. За ўсе гады загінула ў выніку акупацыі адна пятая з шасцімільённага насельніцтва – з прычыны голаду, катаванняў, рэпрэсіяў і г.д. Калі Тыбет быў незалежным там знаходзілася больш як 6000 манастыроў. Менавіта яны выконвалі ролю школ і універсітэтаў. Апроч гэтага шмат было свецкіх школ, якія фінансаваліся як урадам, так і з прыватных грошай. “Краіна, якая добра развівалася ад VII стагоддзя, гэта значыць 1300 гадоў, страціла пасля вызвалення сваю мову. Незалежна ад таго, ці мы былі спустошаны, ці рабілі нейкія памылкі, здолелі жыць на самой вышыні свету, карыстаючыся тыбецкай мовай. Усе веды, якія датычылі будызму, рамёслаў, астраноміі, паэзіі, логікі і г.д. пісалі мы ў сваёй мове. Кіравалі мы гэтай краінай карыстаючыся сваёй мовай”, - так апісаў тры этапы адукацыйнай палітыкі КНР у Тыбеце Панчалама пад час правядзення ў 1988 годзе форуму ў Кітайскім Інстытуце Тыбеталогіі.

**“Непатрэбная і прымітыўная” мова**

Усеагульная кітаізацыя Тыбету пачалася ў 1966 годзе. Тыбецкую мову назвалі мовай рэлігіі і забаранілі яе вывучаць. Усім кваліфікаваным спецыялістам - манахам і свецкім - загадана звальняцца. Падручнікі па тыбецкай мове і па граматыцы былі названы „кніжкамі сляпой веры" і выкінуты з школ. Замест іх прыйшлі „вялікія думкі Мао Дзэдуна" і кітайскія газеты. Дзяцей пачалі вучыць таму, што тыбецкая рэлігія - „сляпая вера", тыбецкія традыцыі - „дзеравеншчына", мова тыбецкая - „непатрэбная і прымітыўная", а тыбецкае грамадства - „неадукаванае, дзікае і правінцыйнае". Тых, якія пагаджаліся з кітайскай прапагандай называлі прагрэсіўнымі асобамі, а тых, якія не хацелі - контррэвалюцыянерамі, ворагамі народу і дасылалі ў лагер. Так была выхавана частка тыбецкіх дзяцей, якія не ведалі ўжо амаль нічога аб уласнай культуры, гісторыі і традыцыях.

Паступова змяняўся і выгляд гарадоў і мястэчак - назвы вуліц, будынкаў, вёсак перарабляліся на кітайскую мову і аздабляліся марксісцкімі лозунгамі. Шмат тыбетцаў былі вымушана змяніць прозвішчы. А летняя рэзідэнцыя Далай-ламаў - Нарбулінгха - атрымала назву - „народны парк". У дадатак, тыбецкую мову стала знішчаюць кітайскімі абаротамі і словамі.

Тыповымі сталі скаргі кітайскіх чыноўнікаў на бессэнсоўнасць тыбецкай мовы. У кнізе „Спецыяльны рапарт аб тыбецкіх народах: 1965-1985" паведамлялася: „Усё менш ёсць настаўнікаў тыбецкае мовы і кваліфікаваных перакладчыкаў. У выніку, з кожным разам усё больш цяжка рыхтаваць афіцыйныя дакументы ў дзвюх мовах - па-кітайску і па-тыбецку. Шмат тыбецкіх чыноўнікаў не можа чытаць і пісаць па-тыбецку. Ня могуць таксама знаёміць масы з палітыкай партыі"

У выдадзенай у 1991 годзе Кітайскім Інстытутам Тыбеталогіі працы, выкладчык Універсітэту К'юнхай пісаў: „Пэўная група людзей лічыць, што карыстанне тыбецкай мовай будзе перашкодай эканамічнаму развіццю (...) Мясцовыя ўлады вырашылі, што неабходна вучыць і карыстацца толькі кітайскай мовай. (...) Гэтая палітыка была абавязковай шмат гадоў. Вынік: людзі не здольны пісаць ані па-тыбецку, ані па-кітайску. А эканамічны крызіс працягваецца"

У 1959-1966 гадах кітайскі ўрад, каб узмацніць сваю ўладу ў Тыбеце, правёў шмат г.зв. „кампаній па кантролю за думкамі". Адукаваныя тыбетцы - ламы, настаяцелі манастыроў, гешэ ( дактары буддысцкай філасофіі) і свецкія людзі - трапілі у турмы і лагеры. Адначасова, з-за цкавання высокаадукаваных настаўнікаў, заняткі пачалі праводзіць малакваліфікаваныя, прызначаныя кітайцамі навучыцелі.

**Новая сістэма “адукацыі”**

Хто атрымаў карысць ад гэтакай сістэмы „адукацыі"? Кітайскі ўрад сцвярджае, што на паляпшэнне ўзроўню адукацыі да Тыбету пайшло 1,1 млрд. юанаў. Незалежна ад таго, ці гэта лічба праўдзівая, ці не - вядома, што гэтыя датацыі атрымала кітайская моладзь, якая жыве ў Тыбеце. Бо амаль 50 прац. грошай ішло да Тыбецкага Універсітэту, які знаходзіцца ў кітайскім горадзе Шэньянг. А большая частка персаналу Універсітэта - гэта былыя жаўнеры 18 Арміі, якая ўдзельнічала ў захопе Тыбета. Відавочна, што і студэнты - галоўным чынам дзеці або родныя тых захопнікаў.

Сёння кітайскі ўрад праводзіць вельмі хітрую палітыку. Ёсць вызначаная лічба месцаў для тыбетцаў і на гэта з бюджэту вызначаюцца адмысловыя кошты. Аднак, большасць месцаў ва Універсітэтах атрымоўваюць кітайскія студэнты. Чаму так адбываецца? Бо, каб трапіць у ўстанову неабходна здаць іспыт пасля сканчэння сярэдняй школы. А экзамен гэты - толькі ў кітайскай мове. Таму тыбетцы прайграюць кітайскім вучням. Яшчэ часцей бывае так, што тыя кітайцы, якія не здалі экзамены на сваёй айчыне едуць да Тыбету і там з задавальненнем прыймаюцца. Праграмы эканамічнага развіцця і палітыка цэнтральнага ўраду адмыслова накіраваны на павялічэнне наплыву кітайскага насельніцтва ў Тыбет, што прыводзіць да маргіналізацыі традыцыйнай тыбецкай культуры і змены тыбетцаў у меншасць (у Тыбеце).

У 1979 годзе 600 студэнтаў з Тыбецкага Аўтаномнага Раёну вучыліся ў розных Універсітэтах. Але толькі 60 з іх былі тыбетцамі. У 1984 годзе з 250 студэнтаў з Тыбецкага Раёна было ледзь 60 асобаў тыбецкага паходжання. Вынікі гэтага катастрафічныя. Сёння 70 прац. тыбетцаў - непісменныя. У 12 з 28 класаў Лхаскай сярэдняй школы нумар 1 для тыбетцаў, вучыцца 933 тыбетцы і 518 кітайцаў. Зразумела, што кітайцы не вучаць тыбецкую мову. Аднак, не вучаць яе таксама 387 тыбецкіх дзяцей. Сярод 111 настаўнікаў толькі 30 ведае тыбецкую мову, а выкладае на ёй - толькі сем. У гэтай школе нават не хаваюць, што лепшыя настаўнікі - для кітайскіх дзяцей, горшыя - „для астатніх".

Што да школ - найлепшыя знаходзяцца ў Лхасе, Шыгацэ, Гжанцэ, Чамбо, Сілінгу, Кягубо, Дарцэдо і Дэчэне. Навучаюцца ў іх дзеці кітайскіх чыноўнікаў. У гэтых, фінансаваных кітайскім урадам, школах, класы падзеляны на кітайскія і тыбецкія. Найлепшыя настаўнікі праводзяць заняткі з кітайскімі класамі. Ёсьць нават дзве сталоўкі. Адна з іх - для тых, хто харчуецца „цампа" (тыб. rtsam-pa) – пражаная ячменная мука і “нацыянальная страва”; кітайцы яго называюць – qingke), а другая - для тых, хто есьць рыс. Адпаведна і якасць харчоў лепшая ў кітайскай.

У апошнія гады кітайскія ўлады ўзмацнілі рэпрэсіі супраць тэбецкага насельніцтва. З рапарту Дзярждэпартамэнту ЗША (1997) вядома, што: “Тыбецкі Універсітэт адмовіўся ад правядзеньня ўступных іспытаў у тыбецкай мове; на аддзеле тыбецкай філалогіі, гісторыі Тыбету і тыбецкае мовы вучацца зараз па-кітайску. Па-тыбецку вучаць цяпер толькі адзін з 17 прадметаў, хаця Універсітэт створана ў 1985 годзе з мэтаю развіваць вывучэнне тыбецкай мовы і культуры. На 1997 год вырашылі адмовіцца ад набору студэнтаў, каб падрыхтаваць да 1998 году новыя праграмы. Зачынена чатыры эксперыментальныя тыбецкія сярэднія школы, якія мелі вялікую папулярнасць. Пачалося ўвядзенне новай праграмы навучання – ад першага класу – у дзвюх мовах (па-кітайску і па-тыбецку), каб дзеці бегла карысталіся кітайскай”. А зусім нядаўна стала вядома, што адзіны Тыбецкі Універсітэт будзе зачынены і ўжо не вядзецца набор студэнтаў.

**Самі сабе**

Кітайскія ўлады абгрунтоўваюць сваё знаходжанне ў Тыбеце тым, што нясуць тыбетцам культуру, эканамічны і цывілізацыйны прагрэс. Аднак, тыбетцы і самі здольны аб сабе памысліць. Прыкладам гэтага - вялікі ўклад і старанні тыбецкай эміграцыі. 11 тысяч манахаў знаходзіцца сёння ў паўсталых у Індыі і Непалу манастырах. У Індыі створаны шматлікія навучальныя ўстановы, якія захоўваюць, трапіўшую ў небяспеку культуру і традыцыі старажытнай тыбецкай цывілізацыі. Цэнтральны Інстытут Вышэйшых Курсаў у Бенарэс (штат Утар Прадэш, Індыя) дае сучасны ўзровень адукацыі студэнтам, якія прыбываюць з буддысцкіх раёнаў Гімалаяў.

У Кніжніцы Тыбецкіх Спраў і Архіваў (BTDA) ў Дхарамсалі і ў Тыбет Хаус у Нью Дэлі моладзь мае магчымасць вывучаць не толькі мову, але даведацца на навуковым узроўні аб сваёй культуры, гісторыі. 5000 даследчыкаў, студэнты больш як 30 дзяржаў карыстаюцца архівамі гэтай Кніжніцы. Апроч таго ў Дхарамсалі знаходзіцца Тыбецкі Інстытут Мастацтва, дзе вывучаецца традыцыйная опера, песні, працуюць тыбецкія ансамблі. Тыбецкае выдавецтва ў тым жа Дхарамсалі выдае тысячы кніжак, хронік, часопісаў па-тыбецку. Студэнты-эмігранты атрымоўваюць адукацыю на тыбецкай мове. Скончыўшыя вышэйшыя вучэльні, яны працуюць у эміграцыйным урадзе, або працягваюць сваю кар'еру пакуль-што у Індыі. Сёння тысячы маладых людзей, рызыкуючы жыццём, выяжджаюць з акупаванага Тыбету праз Гімалаі да Індыі, якая для іх і іх сямей застаецца адзінай надзеяй на свабоду і дае магчымасьць атрымаць тую адукацыю, якая напэўна спатрэбіцца ў будучыні.

***Алена Стралкова,***
***для “Нашага слова”,***

падрыхтавана па кнізе *„Tybet. Odcinanie glowy wlkia. Swiadkowie. Fakty mowili za siebie"* выданай праз *Polskie Stowarzyszenie Przyjacioli Tybetu.*

# Беларускае слова — ад Бога

У нумары ад 17 верасня 1998 г. паважаная мною газета надрукавала абразлівы для мяне як беларуса, разбуральны па змесце ліст пенсіянера Івана Всілеўскага.

Адкінушы ў бок здаўна вядомую беларускую далікатнасць і талерантнасць, аўтар ліста груба і бяздоказна бэсціць беларускую мову. Бач ты, “на фоне русского языка белорусская мова выглядит убого и примитивно”. Ды не мова, а вашы думкі пра гэтую мову, Іван Андрэевіч, выглядаюць “убого и примитивно”! Азірніцеся: на парозе трэцяе тысячагоддзе, час, калі невуцтва становіцца анахранізмам. А вы хочаце, каб пад яго падстрoйваліся мільёны маіх суайчыннікаў?

Я разумею, што Вы – не сусветны геній Адам Міцкевіч, які ў славутай парыжскай Сарбоне казаў пра Беларускую мову: “...гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, якая ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана”.

Я разумею, што Вы – не выдатны рускі вучоны Леў Гумілёў, які лічыў, што беларуская мова з'яўляецца адзінай усходнеславянскай мовай, дайшоўшай да нашых дзён амаль у чыстым выглядзе яшчэ з часоў паганства.

Я выдатна разумею, што Вы – не вядомы польскі паэт Віктар Гамуліцкі, які пісаў:

…О, мова Беларуская!
Твой гук заўсёды,
Як рэха дадаўніх дзён.
Ты – мова мірнага,
Сардэчнага народа…

Я разумею, што Вы – не Гаўрыл Дзяржавін, не Аляксандр Купрын і не Іван Бунін, якія для сваіх твораў – укрaсы вялікай рускай літаратуры – бралі надзвычайныя па сваёй гожасці і сакавітасці беларускія словы.

Урэшце, размаўляючы, як мяркуеце, “по- русски”, вы і не цяміце, колькі слоў праз “бедную” беларускую мову пазычыў сабе “богатый русский язык”! Паспрабуйце хаця б задумацца над вядомымі рускімі прымаўкамі “Жить – не тужить” ( а ці ёсць у рускай мове слова “туга”?), “Не так страшен чёрт, как его малюют” (а зусм не “рисуют”). Паспрабуйце размаўляць “чисто по-русски”. У такім выпадку вы не зможаце казаць “бильярдная палка” замест правільнага выразу “бильярдный кий” (беларускі кій, кіёчак), не скажаце “вокруг мира” замест “вокруг света” (свет, сусветны), “тайный ужин” замест “тайная вечеря” (вячэра, вячэраць) і г.д. Вы нярэдка сустрэнеце ў рускай мове словы, паходжанне якіх вельмі празрыстае: вызволять, хворый, друкарь, усмешка, шлях, народиться, хата, сгинуть, межа, потребность (хоць надта ж не падабаецца Івану васілеўскаму беларускае “трэба”), жито, жнея і гэтак далей, і гэтак далей… І не забывайцеся, шаноўны Іван Андрэевіч, выключыць тэлевізар, калі папулярны расійскі гурт “Мумий Тролль” спявае свой хіт “Утекай” (уцякай). І ніколі – крый Божа! – не чытайце класічную казку рускага пісьменніка Яршова “Конёк-горбунок”, дзе ёсць такія словы: “И такой он стал хороший, и такой он стал пригожий” (прыгожы)… І ні ў якім разе не адкрывайце кнігу В.Анікіна “К мудрости ступенька”, а то яшчэ вычытаеце там такое: “Недорослого зайца называли “заяня”…

Зрэшты, няхай Іван Васілеўскі і яго аднадумцы размаўляюць, як умеюць, і чытаюць, што пажадаюць, гэта іх права. Адна толькі настойлівая просьба: не трэба сваё невуцтва і бескультур'е абрушваць на святую пакутніцу – Беларускую мову, прынесеную праз стагоддзі і захаваную для наступных пакаленняў!

Як “аматар беларускай мовы”, прапаную вам, Іван Андрэевіч, і ўсім, хто смела бярэцца разважаць і лаяць беларушчыну, не ведаючы яе, псіхалагічна-лінгвістычны тэст Лядаховіча-Таміліна. Пспрабуйце перакласці на рускую мову з беларускай: “Я люблю сваіх суседак, але кахаю толькі жонку”. Што, не атрымліваецца? А цяпер паспрабуйце зрабіць высновы, ці сапраўды наша мова такая прымітыўная, як вы лічыце…

Зрэшты, усе намаганні прынізіць беларушчыну вартыя жалю. Ужо 300 год (калі лічыць ад часу забароны выкарыстання старабеларускай мовы ў афіцыйным справаводстве Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага) шавіністы ўсіх масцей і часоў спрабуюць прынізіць Беларускую мову. Ды марна! Як жыла яна, светлая, чыстая, родная, так і жыве. І будзе жыць! І праз 20 гадоў, і праз 200! І будуць на ёй складаць песні, звяртацца да Бога, пісаць кнігі, прызнавацца ў каханні. А вось пра ненавіснікаў яе не застанецца і згадкі!

Як слушна піша слынны майстар нацыянальнай паэзіі Рыгор Барадулін:

Беларускае Слова – ад Бога.
Слову нашаму Бог дапамог!
Хто не любіць яго, ад тога
Назаўсёды адвернецца Бог.

***Дзмітрый Гранчык.***
***Ваш чытач і падпісчык.***
***Менск.***





# Востраў

**Ганна Матусевіч**

***Называюць у Літве "вакоіцай" альбо "засценкам" асаду шляхецкую для розніцы ад уласна вёсак ці сёл, асад вейскіх (вясковых).***

***З Каментару Адама Міцкевіча да свайго твору "Пан Тадэуш".***

А на Сёмуху гэтым разам мы з'ездзілі ў Востаў. Бліжні, бо быў яшчэ й Дальні, што пралягаў за 300-мятровым пасам лесу воддаль ад Масьцішча, што на Койдаўшчыне. Гэта цяпер 300 метраў і засталося. А даўней, у часы не такія ўжо і далёкія, калі стаялі там 3 хаты, у якіх умяшчаўся ўвесь немалы шляхецкі род Матусевічаў, лес абступаў усё наваколле. Мая бабка Клемянтына, калі я ў маленстве пыталася яе: " Адкуль Вы?" – адказвала: " З Вострава". Яна не называла ўжо сваю Супольнасць ні фальваркам, ні засьценкам, ні ваколіцай, ні тым больш – хутарам. Старыя назвы былі бязлітасна знішчаны, але і новыя не прыжыліся. Сваю Супольнасць людзі, як ім іхнімі дзядамі была пераказана па спадчыне даўнейшая вольніца, перахоўвалі ў сэрцах, свята ўшаноўвалі. А як жа інакш? Калі фізічна зніштожана была іхняя Айчына на Зямлі, то людзі ўспаміналі пра сваю Айчыну на Небе, імя якой – Брацтва. Так нараджалася і нашая Айчына Брацтва, якую я сыходзячы з тутэйшых абставін, усьлед за Адамам Міцкевічам назвала Літвой і якая сфармавалася ў нашай хаце 8 лістапада 1997 году. Але тут мова мусіць ісці пра Востраў, як Айчыну ўжо не існуючай дзяржавы.

… Памятаю, як Марыя хавала маленькага Езуса ў яслі ад шалёных драпежнікаў старога свету. Памятаю, як павук, аплёўшы павуцінай тую ясліню, прыдаў ёй не жылы выгляд і тым падмануў пагоню зла. Марыя ў васобе Хрыста нарадзіла Новы Свет, і Бог сцярог тую маленькую Супольнасьць Новага Сьвету. А ў Востраве перахоўваліся носьбіты рэшткаў старых ведаў, бо зьнішчаны былі ўжо і кнігі нашых Асветнікаў, і наш Статут, і наша Дзяржава – увесь той лад жыцця. І толькі засталася Жанчына, Маці, Матэрыя, Сэрца, Касмічны Магніт, Якая памятала… Дзіўна ўсё ж, што беларускія адраджэнцы паставілі помнік найперш Максімаваму бацьку ды не Маці. Але гэта толькі сведчыць аб тым, што ў нашым грамадстве пакуль пераважае грубая фізічная сіла і нікольні не цэніцца сіла духу. Людзі бачаць толькі тое, што ляжыць на паверхні. Вось адкрыў Пазьняк забойства целаў – убачылі, а адкрытая Славамірам ганебнае забойства душаў – не бачаць. Таму і стаяць на нашай зямлі скрозь помнікі Леніну, Дзяржынскаму, што большы ўклад у эвалюцыю ўнесла злой сілай, чым доб-рай. Справядліва, хоць і прыкра. І каб хоць нейк проціставіцца той прыкрасці, я ўзялася сама давследаваць Востраў, бо ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, куды я зьвярталася па дапамогу, са мной толькі ветліва пагаварыла Адамовіч Святлана Філіпаўна, пакінуўшы мне свае каардынаты быццам бы дзеля дадатковых звесткаў да запыту. Неабходныя звесткі я ёй і прадставіла, але архіў пакуль маўчыць. Мо яго напалохала тое, што надта ж выразна з маіх папераў выглядала аблічча нават не новых беларусаў (бо менавіта пра іх мне распавядала ў сваім кабінеце Святлана Філіпоўна) ды ранішняй Ліцьвінкі. Што зробіш? Не адна яна пужаецца. Архіў маўчыць, ну і я пакуль маўчу, бо ўрэшце грошы, што давялося б мне плаціць за іхнія шляхецкія паперы, у мяне не лішнія, хоць грошы і ёсць сьмецьце, але ў дадзеным выпадку яны прадстаўляюць матэрыю, якую я паважаю. Такім чынам вырашана: я не буду разбураць помнік Дзяржынскаму, (сам разбурыцца, калі прыйдзе пара) лепш паімкнуся паставіць помнік Востраву.

Цяпер там скрозь дачы. Недзе блізка й Шушкевіча дача знаходзіцца. Дзед Чэсік Заянчкоўскі, што паказваў нам сялібу Матусевічаў, нядобра азваўся пра гэтых бягучых людзей, уключаючы і былога дзяржаўнага дзеяча: " Крадуць яны ўсе, адзін перад адным навыперадкі!! Затое, хараша сказаў пра аднаго з маіх дзядоў – Ігната Матусевіча. Калі бальшавікі зніштожылі Востраў, дзед Ігналя мусіў перабівацца на розных казённых работах; пасля наняўся пастухом у Масціішча. Падышоў пенсійны ўзрост, а стажу яму не ставала. То людзі заступіліся за яго і прадставілі даведку, што ён пасвіў людскіх кароў. І пенсію далі, як належыць. Удзячнасць – адзін з пунктаў Статута Брацтва. І хоць простыя людзі не маглі гэта скласці ў словах, а тым больш – на паперы, яны насілі Статут у сваіх душах, А лёгкі дотык душамі самы моцны, бо ён – Нябесны, Брацкі.

То адкуль жа пачынаецца Востраў? І хто будзе правадніцай да яго? Так, вясёленькае слоўца "экскурсавод" тут замяняецца на правадніца, а лепш сказаць – воднік, замест скампратаванага бальшавікамі слова "правадыр". Расейскае Вадалей, а ліцвінскае – Воднік мусіць мець яшчэ адно значэнне: кіраўнік, той, хто вядзе. Яна ж – Настаўніца, Маці, бо мы рушым не да ціхага мужчынскага кляштара, а да цытадэлі, цвердзі, якая трымалася на жаночай духовай сіле. Імя старэйшай правадніцы, водніцы, яна ж – галоўная ахвярадаўца, трымальніца і захавальніца вялікага роду Матусевічаў – бабка Зоня, родная сястра маёй бабкі Клемянціны па бацьку. 02.02.1912 году нараджэння, яна памятае мінулае да драбніцаў. Яшчэ мяне праводзілі да Вострава цёця Алдоня з Воршы ды цёця Карольця з Камароўшчыны – родныя сёстры майго бацькі. А бацька, калі я штось спрабавала пытацца ў яго, аднекваўся, груба пасміхваўся; а калі і расказваў нешта, то пры добрай чарцы. Але я не крыўдую на яго, як не крыўдавала Ларыса Геніюш на свайго тату. Людзьмі да гэтага часу валодае страх. Страх быў нават у бабкі Зоні, мабыць, бо калі я сказала, што шукаю ў архіве звестак пра шляхецтва Матусевічаў, то яна абмовілася, што "мы не дваране, а нішчылі нас таму, што радня была ў Канадзе". Так, вынішчылі найлепшых, найшляхетнейшых, найвышэйшых, бо і пярун страляе ў найвышэйшы грамаадвод.

Заўсёды быў нехта адзін, хто прымаў адказнасць за зямлю. У Востраве таксама быў адзін. Прадзеда Зоні звалі, здаецца, Апалінар. Ён першы з Матусевічаў і набыў зямлю ў Востраве за 1 км ад Масцішча. Апалінар – прадзед Зоні меў дзвюх дачок і аднаго сына з удакладненым імем Апалінар. Востраў пачынае дзяліцца на хаты. Да аднае з дачок прадзеда Апалінара прыстаў у прымы Ціжэўскі. Маладыя мусілі заснаваць сваю хату. Пасьля яшчэ дзьве хаты ставілі Ян і Юзаф Матусевічы – сыны Апалінара – дзядуні. І на дакалгасны час, які памятаюць мае цёткі і старэйшыя людзі Масцішча, яшчэ стаялі тры хаты, у якіх жылі адзін Ціжэўскі з пляменіцай Марыяй, што была замужам за чыстакроўным немцам Рудольфам Аўрысам. Застаўся ён тут з ваеннага рэзруху, упадабаўшы тутэйшую красуню, што сведчыць аб тым, што Востраў не быў ізаляваным ад вялікага свету. У другой хаце жылі Суднічанкі – унучкі Юзафа Матусевіча. Да дачкі Юзафа, мабыць Броні, прыстаў у прымы Антон Суднік з Мелькавіч, ад якой і пайшлі тыя Суднічанкі. Падатлівая беларуская інтэлігенцыя, захопленая расейскай рэвалюцыяй, не змагла абараніць культуры нашай зямлі, як гэта прыкладам было зроблена ў суседняй Летуве. На Сёмуху ў Востраве з нашай сям'ёй быў Дзіма Таруліс – гэты Светлы Анёл, што ня раз ужо пасылаўся мне Богам, каб працянгуць руку, калі я ў нерашучасьці спынялася перад чарговай прорвай. Ён і цяпер працягнуў мне руку, але пра гэта я скажу трохі пазней. Цяпер жа толькі адзначу той факт, што Дзіма, гэты летувіс з Менску, запісаў у пашпарце прозвішча сваёй жонкі як Таруленя, ды не Таруліс. Дзіма ўмеў абараніць сваю культуру на чужой зямлі. На нашай зямлі сваю культуру баранілі жанчыны Вострава, бо і да гэтага часу жыве ў Менску Анька Суднічанка, бо яна нарадзіла пазашлюбнага сына і таму не стала прыкладам, Сцепулёніхай, ды засталася, як у маладосьці – Суднічанкай. А ў трэцяй хаце жылі дзеці Яна Матусевіча – майго прадзеда. Ад таго мейсца застаўся толькі кляновы пень ды рэшткі ствала паваленага дрэва. Яшчэ ў мінулым годзе гэты клён стаяў… Не заспелі … Сфатаграфаваць бы хоць гэты пень!.. "Рабіць ёй няма чаго! Нейкі пень будзе фатаграфаваць! То грошы для яе – смецце, а то раптам пень стаў золатам!" – абурыўся муж. Рабіць мне не было чаго; я аслабла і ў такім стане не змагла б абараніць пень-адзіночку рэчавую памяць пра Востраў. Ды заступіліся Дзіма і мая Веранічка. Дзякуй Вам, чуйныя Светлыя Душы! А пасля пню мой добры муж пасвятлеў і сам прапанаваў сфатаграфаваць сям'ю Заянчкоўскіх ля іхнай хаты з цьвітучым бэзам, штой было зроблена. Дабро множыць дабро, і Вы бачылі б, як пасвятлелі твары ў гэтых спрацаваных людзей, што захавалі для мяне памяць пра Востраў! А Вераніка ўзяла кару з таго клёну. Яна хоча ўклеіць яе ў свой Дзённік, у тым мейсцы, дзе апісвае пра паездку ў Востраў. Гледзячы на яе, і я папрасіла ў дачкі кавалачак кары ды паклала ў папку з радаводам Матусевічаў. Пішу, а Міколка пытаецца ў мяне: "Мама, а для каго ты пішаш?"

- Для цябе, сынок. Вырасцеш – прачытаеш пра Востраў.

- Мама, а ты не пішы пра тое, што я знайшоў павучка-землятрасуна, бо ніхто яго ня ведае, толькі я – будуць смяяцца. (Міколка ведае, што калі ўбачыш павучка – будзе пісьмо ці навіна якая, а тут ён знайшоў ці то павучка стракатага, ці то жучка, што скача і назваў яго "землетрасуном").

- Добра, сынок, не буду. Я толькі ў Дзённік свой запісала. (Ужо ж даруй мне, сынок, гэтую ману. Хто ведае, можа некалі будзеш удзячны мне за яе, як я табе цяпер удзячна, мой маленькі прарок).

*(Працяг у наступным нумары)*

## Да 200-годдзя з дня нараджэння А.С.Пушкіна

Беларускі Фонд культуры ажыццявіў выданне паэмы А.С.Пушкіна "Яўген Анегін" на беларускай і расейскай мовах. Пераклад зроблены яшчэ ў 1949 годзе Аркадзем Куляшовым, ілюстраваў юбілейнае выданне вядомы беларускі мастак Арлен Кашкурэвіч.

Кніга выпушчана тыражом усяго 15 тысяч экзэмпляраў, і значная частка выдання будзе ўручана выпускнікам школ 1999 года, якія закончылі школу з залатым або сярэбраным медалём.

На здымку: Старшыня Беларускага фонду культуры У.А.Гілеп з першым экзэмплярам кнігі "Яўген Анегін" на беларускай мове.

Фота Яўгена Казюлі. БЕЛТА. – О – ТА/ТМ



## Не верце энцыклапедыям

Выява Нясвіжскай ратушы там ужо не адпавядае сапраўднасці. Зараз яна цалкам прыведзена ў стан , які мела да 1700 года. Каштавала гэта не менш, як 4 00 000 000 рублёў.



## Віншаванне

Спадарства! Нас стала болей. 13 чэрвеня ў сям'і Вольгі і Аляксандра Бондаравых нарадзілася дачушка, трэцяе дзіця. Зычым сям'і Бандаравых шчасця, здароўя і дабрабыту. Хай расце вам на ўцеху свядомая беларусачка.

*Ангеліна Масюта*

**Ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк**

# РОДНАЯ МОВА

## СЛОВА З ЧЫРВОНАГА КАСЦЁЛА



*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах).*

Якая родная мова народу, дзяржавы, такая мова і ў касьцёле, толькі як я ўжо сказаў, у касьцёле яна больш узвышаная, духоўная. Касьцёл нясе на сабе грахі людзей, нашыя слабасці, ачышчаючы і асвячаючы нас. "Хрыстус памёр за нас, калі мы былі яшчэ грэшнікамі" (Рым 5,6. 8б). Так, як кожная добрая маці перажывае за лёсы сваіх дзяцей, іх беды носіць у сваім сэрцы, маці заўсёды блізка, яна ўсё разумее, спачувае, прабачае, настаўляе, бароніць, моліцца, маці любіць сваю дачку ці сына, калі ён нават найвялікшы "преступник" і заўсёды ўбачыць у ім штосьці добрае. Так і Касьцёл спачувае непаслухмяным дарослым дзецям, людзям, моліцца за іх, за нас, добрыя людзі, а калі здараецца якая бяда (вайна, Чарнобыль, разводы…), Касцёл гаворыць праз міласэрнасць, прабачэнне ўсім і ўсіх, хто на працягу больш 80 гадоў праследваў Касцёл і Царкву. Маці-Касцёл ніколі не асудзіць, бо мы і так асуджаны сваімі бедамі, цярпеннямі, у слязах вечна барыкаемся змаганнем за лепшае, толькі ўся бяда ў тым, што чалавецтва так і не навучылася адрозніваць сапраўднае дабро ад фальшывага зла, усе мы спадзяёмся на свае сілы. Часта д'ябал у сваіх хітрасцях і каварстве чалавекам непераўзыдзены, і калі Пан Бог не дапаможа, лічы што ты, чалавеча, пацярпеў фіяска. Пасля розных палітычных разрух і войнаў, хто мае і не першае слова прабачэння і дапамогі, як не хрысціянства і вера – дабрыня і прабачэньне. Я тут зусім не імкнуўся паставіць на першым месцы Касцёл, таму што Царква, вернікі, браты і сёстры праваслаўныя, таксама вельмі цярпелі ад генацыду ідэалогіі атэізму – тады мы былі бліжэй паміж сабою, таму што мы былі на адной Галгофе і кленчылі пад адным Крыжом. Як бачым, у нас не толькі адзін Пан Бог, але і адна Галгофа, аднолькавыя цярпенні, хоць трошкі адрозніваюцца крыжы, але Пан Езус на крыжы адзін і адно неба. Цяпер жа, ідучы дарогаю жыцця і адраджэння, мы спрачаемся, хто чый, як кажа Апостал Павел: "Я Апалоса, я Кефаса, а я – Хрыста" (1. Кар. 1,12).

Таму тут паўстае пытанне-зварот да інтэлігенцыі, пісьменнікаў, паэтаў, кампазітараў і выкладчыкаў, навукоўцаў і міністраў, хто працуе ў справе культурнага адраджэння. Ці сапраўдна духоўна цесна звязаныя з Касцёлам і Царквою? Як часта вы па-сапраўднаму як хрысціяне наведваеце храм, ці па патрэбе голасу душы, ці толь-кі пасвяціць Пасху. Ці прымаеце Святыя Сакраманты як: Шлюб, Споведзь, Святое Прычасце і ці стараецеся жыць паводле гэтых, адвечных, Божых правоў? Часта мы ўспрымаем Езуса Хрыста і Яго навуку "ОПТАМ" – гэта азначае, што мы дома, сярод усялякіх розных кнігаў, маем Біблію – Боскае Слова, але ніяк не можам успрыняць Хрысто-вае вучэнне ў "РОЗНІЦУ" – гэта выкананне Боскіх за-паведзяў, прымаць Святыя Сакраманты, Прычасце, браць удзел у набажэнствах, маліцца, быць практыкуючым хрысціянінам у сваім асабістым жыцці і добрым прыкладам для сваёй сям'і. Сёння, як ніколі, шаноўныя настаўнікі, вельмі патрэбны Ваш духоўны прыклад ся-род моладзі, бо праз мову сам Бог гаворыць да нас, праз мову адраджаецца дух веры, прагрэсу, культуры. Паглядзіце, прашу Вас, як вераць у Бога і захоўваюць хрысціянскія традыцыі ў іншых прагрэсіўных краінах свету.

Не ў свечцы, якую мы трымаем ў руцэ ці ставім на падсвечнік перад людзьмі, заключаецца ўся наша вера, а ў сапраўднай адказнасці перад Богам, продкамі, Бацькаўшчынаю, сваім сумленнем і павазе да чалавека.

"Hic transit gloria mundi" – "Так праходзіць слава свету". Адна справа пакінуць напісанае слова, верш, мастацкі вобраз, пабудаваць дом, падобна свечцы ў храме, і зусім іншая – даць ім духу ў жыцці, што і робяць вера, духоўнасць, канфесія.

Без удзелу інтэлігенцыі, без Вас, шаноўныя бацькі, цяжка ўявіць сабе саліднае адраджэнне. Вы думаеце, што жывеце сабе, а Касцёл сабе, – Касцёл існуе толькі для Вас, нясе і ахвяруе Пану Богу Вашыя духоўныя ахвяры, цяжкасці і малітвы, Хрыстус у Касцёле церпіць разам з Вамі…

Пытаньне, якая мова ў Касцёле? – Такая самая, што і ў сем'ях, ясельках, дзіцячых садках, школах, месцах працы, ВНУ і г.д. На якой мове ў сям'і – на такой жа і ў Касцёле. Але на якой, хачу звярнуцца да філалагічных факультэтаў беларускай мовы, камісіі па стварэнні слоўнікаў: якую распрацаваную літургічную мову Вы падалі Касцёлу і Царкве, якія адраджаюцца ў Беларусі? Гэта будзе першы агульны ўсебеларускі крок у кірунку ацэнкі хрысціянства з боку ўладаў. Калі браць паводле працэнтаў, то ў Беларусі 85-90% хрысціяне, якія павінны і дапамагаюць у духоўным і маральным адраджэньні: "Служыце Богу, каб не памерлі".

Што такое "Старабеларуская" і "Беларуская мова" сёньня? Гэта правапіс, які існаваў у беларускай мове да 1933г., правапіс Тарашкевіча, правапіс не толькі з памякчэннямі, як напісан для Вас мой артыкул, але граматыка Тарашкевіча, як лепшая з пяці (5) на той час пададзеных, якая надавала мове своеасаблівую вымову. Мілагучнасць беларускай мовы, як струмень чыстай крынічнай вады, які сцякае паміж каменчыкамі і зялёнымі берагамі, як шчабятанне птушак у гаі. Услухайцеся, якая мяккая вымова ў нашых суседзяў літоўцаў, палякаў, на Заходняй Украіне, у чэхаў, славакаў. Гэта яшчэ раз сцвярджае пра колішнюю еднасць як духоўную, так і культурную. А правапіс мовы зменены таму, каб наблізіць да рускай і даць так званы сучасны выгляд.

Беларуская мова мела яшчэ і лацінскі варыянт правапісу, пра які з насмешкаю пісалі, гаварылі, што карыстаюцца лацінкаю, каб адрозніваць ад мужыцкай мовы. Гэта зусім не так, пісьменнасць лацінкаю мае традыцыю з даўніх часоў. На Беларусі карысталіся лацінкай, асабліва з другой паловы ХУІ ст. Першы друкаваны твор лацінкаю – гэта "Песня пра зубра" Міколы Гусоўскага. Калі пачалі друкавацца беларускія кнігі, Біблія, газеты, малітоўнікі, карысталіся і кірыліцай. Была патрэбна больш глыбока і цесна аб'ядняцца з Захадам, яго культураю і новай стылістыкай мовы (літары напісаны лацінскім правапісам), каб уся Еўропа і многія краіны сьвету змаглі даступна чытаць на беларускай мове. Такі паварот у граматыцы зрабіла Малдова ў пачатку 90-х гадоў XX ст. – дзе ўведзена зноў лацінка, адкінуўшы гвалтоўна ўведзены ў застойныя часы алфавіт кірыліцай.

Беларуская мова, якую ў свой час хацелі бачыць і мець у лацінскам правапісе, гэта зусім не зблiжэнне ці зліццё з Польшчай. Сведчанне таму абраны лацінска-чэшскі варыянт правапісу, а не польскі, нямецкі ці англійскі варыянт. Чаму?

Па-першае, польская мова ёсць суседняй мовай.

Па-другое, чэшскі варыянт лацінкі, таму што гэтая мова асобная ад польскай.

Па-трэцяе, чэшская мова з'яўляецца адной з многіх славянскіх моў, у адрозненні ад нямецкай, англійскай і іншых.

Па-чацьвёртае, на той "Залаты перыяд" культурнага адраджэння Вялікага Княства Літоўскага, у тым ліку Беларусі, сталіца Чэхіі – Прага была вялікім цэнтрам культуры і інтэлектуальнага ўзросту для многіх нашых дзеячоў культуры. Мастацтва, паэзія, навука вабілі многіх, так як, напрыклад, і знаходжанне і навука ў Празе самога Францішка Скарыны. І да сённяшняга дня ў многіх людзей, асабліва моладзі, ёсць жаданне паехаць на Захад і атрымаць адукацыю. Вельмі цяжка навучыць студэнта ці кожнага, жадаючага ведаць тую ці іншую мову, уменню іграць на незалежна якіх музычных інструментах, калі сам не хоча вучыцца і працаваць над сабою ў поце чала. Таму кожны чалавек, які лічыць сябе сапраўдным грамадзянінам сваёй Бацькаўшчыны, павінен імкнуцца несці сам і запаліць жывы агеньчык любові да роднай мовы ў сэрцах сваіх блізкіх.

На маю думку як святара, скажу шчыра, што без вяртання веры і чыстых хрысціянскіх традыцый у сем'ях і культуры, мы ўвесь час будзем блукаць і марыць, па падабенству народа абранага Богам, у пустыні, аж зродзіцца вера, якая і прывядзе ўва ўсіх адносінах і ўзроўнях да зямлі Богам абяцанай. Дзякуючы веры і сапраўднай любові да Бога нараджаецца любоў да бліжняга і Бацькаўшчыны. Бо ў Храме немагчыма не ўспамінаць у малітвах пра бліжніх, пра Богам дадзены край. Тады не так проста будзеш таптаць старыя, адвечныя бацькоўскія традыцыі, ці разбураць храмы, ламаць на могілках крыжы, спадчынную гістарычную архітэктуру вялікую ці малую. Паламаўшы і разбурыўшы бачныя храмы ў краіне, толькі цяпер мы адчулі і ўбачылі, што паламалі, разбурылі штосьці вялікае і ўзнёслае – душы людскія, нябачныя храмы ў душах і сэрцах людскіх. Гэтая адкрытая рана бачна ўва многіх з нас, бо як за даўніх часоў мы не хадзілі ў храмы, каб памаліцца, бываць на набажэнствах, спадзявацца і прыступаць да Святога Прычасця, так гэта прадаўжаецца і да сённяшняга дня. Ваяўнічы атэізм даўно ўжо знік, як імгла з усходам сонца, а мы ўсё яшчэ жывём пад яго замбіраваннем. Увайдзіце смела ў Храм, не бойцеся, ён чакае на Вас. Бацькі Вашыя не баяліся Храма, яны вельмі цаніла і любілі храм, духоўнасць і Бога. Мы разгубленыя ў жыцці, бо згубілі храм і духоўнасць, калі знойдзеш храм, знойдзеш веру, а знайшоўшы веру, знойдзеш і сябе, і народ, і дапамогу Божую.

Давайце ж адбудуем нашыя Святыні, адродзім і адновім з Божай дапамогаю душы нашы.

***Родная мова! Цудоўная мова!***
***Ты нашых думак выток і аснова,***
***Матчын дарунак ад самай калыскі,***
***Ты самацветаў яскравая пізка.***

А цяпер – слова за табою, паважаны суайчыннік, хрысціянін, сын і дачка гэтай зямлі. Усё залежыць ад твайго сумлення і ад твайго асабістага прыкладу – жыцця.



Аляксандр Надсан і Уладзіслаў Завальнюк- уніяцкі і каталіцкі святары адзіныя ў змаганні за мову. Здымак У. Кармілкіна.

# Абразкі ад Уладзіміра Содаля

## ФАРШТЭЙН?

Неяк задумаўся: амаль тры гады – з лета 1941 года да лета 1944 года – Беларусь жыла пад нямецкай акупацыяй. Жывучы пад немцамі, нашы людзі, хацелі яны гэтага ці не, а мусілі, каб хоць неяк разумецца з немцамі, спазнаваць і іхнюю мову. Мая мама і цяпер памятае з вайны добрую паўсотню нямецкіх слоў. Гэта "арбайтэн" – працаваць, "кіндэр" – дзеці, "хальт" – стой, "цурук" – назад, "васэр" – вада, "мэсэр" – нож, "шайза" – кепска, "гут" – добра, "кальт" – холадна, "кранк" – хворы, "шнапс" і "шпэк" – гарэлка і сала, "фойер" – агонь, "капут" – смерць, "вэк" і "авэк" – прэч, "найн" і "нікс" – не, няма. "Аўфідэрзэін" – да пабачэння, "шнэль!" – хутка, хутчэй... "Данке" – дзякуй. "Варум"—чаму, "брот" – хлеб, "фрау" – жанчына, кабета, "мутэр" – маці, "фатэр" – бацька, "Біттэ!" – калі ласка. "Нікс фарштэйн" – не разумею. "Ком" – хадзі сюды, хадзі да мяне.

Мама з вайны лічыць па-нямецку да дзесяці: айн, цвай, драй, фір, фюнф, зэкс... Памятае некаторыя цэлыя выразы:"Фэрштэйн зі?", "Вас іст дас?" і інш. З большага разумела ўжо і іхнюю паволынуую гаворку.

Чула і нямецкія мацюкі, лаянкі, кшталтам: фарфлюктар, сакрамэнт. Гэты набор нямецкіх слоў на Беларусі ведаў кожны. Некаторыя ўжо і прыпеўкі складалі з нямецкай моўнай заквaскай. Адна з іх гучала так: "Матка яйка, матка шпэк: Я—германскі чалавек!"

Дык гэта ўсяго тры гады з немцамі пажылі! А калі б болей? Больш? Тады што б было? Мабыць, і немцы, пажыўшы, якіясь нашы словы засвоілі. Інакш ім таксама было б нялроста з нашым людам разумецца: ці штось узяць, папрасіць ці памяняць. Малако – яны называлі "млекэ". Цукар гэтак жа, як і мы, — "цукер"... Маладых дзяўчат называлі паненкамі. Сталых маглі назваць і фраў! А вось, як немцы называлі нашу бульбу? Шмат у каго пра гэта пытаўся, але ніхто, на жаль, не памятае. А гэта ж так цікава. Бульбачку ж нашу, гэтак жа, яйкі, шпэк, спажывалі. Былі ў немцаў і свае перагаворшчыкі. Калі трэба было, дык і перагаворшчыка бралі з сабой. А дзе гаворка была простая, нетаропкая, абыходзіліся і без перагаворшчыкаў. Мама і цяпер памятае некаторыя дыялогі з немцамі. Вось адзін з іх.

— Дзе пан?
— На вайне ...
— Кіндэр колькі?
— Два.
— Цвай! – скажуць яны па-свойму.
— Ага! Цвай! – паўторым мы.
— Вайна шайза! – будзе казаць каторы.

І ты, каб патрапіць яму, паўтараеш:
— Шайзе, шайзе, пан!

Вось так і гаварылі нашы людзі з прыблудамі. Некаторыя свае словы цяжкія для нас, яны замянялі кароткімі выклічнікамі. Пагражаючы, што будзе страляць, казалі: цух-цух! - І ўсё ўсім рабілася зразумела. Ведалі слова тыф! Як толькі хто скажа, што ў хаце тыф, дык як вадой іх змывала. Пра немцаў не казалі, што яны гавораць, пра іх казалі, што яны гяргечуць. Гэта, пэўна, таму, што ў іхняй мове часта чуваць слова "гер". "Гер пан, гер афіцэр".

## ДОЙЧ

Цяпер на Беларусі вывучаюць розныя мовы: ангельскую, нямецкую, французскую, польскую, іспанскую, італьянскую... У каго да якой душа ляжыць! А мы, пасляваенныя дзеці, адно вывучалі толькі нямецкую.

Не ведаю, ці разумелі, ці разумеюць хоць зараз тыя нашы педагогі, якую яны гэтай вучобай наносілі нам душэўную траўму. Мы не разумелі, чаму павінны вывучаць мову таго народа, які нарабіў гэтулькі нам гора, бяды. Мы пратэставалі, абуралісся, як маглі! Нам яшчэ чуліся жорсткія гартанныя каманды: "Хальт! Цурук! Хэндэ хох! Авэк і шнэль!"

За гэтымі словамі бачыліся аўчаркі, жандары з бляхамі... Калючы дрот... Кожны ўрокператвараўся для нас у пекла, у пакуту. Нямецкая мова, нямецкія словы нам нагадвалі пажары, холад і голад, кроў і разбурэнне, выццё снарадаў, свіст куляў, выбух бомбаў. Як жа было вучыцца нам гэтай мове! Не дапамаглі і тлумачэнні, што нямецкі народ тут ні пры чым. У нашых, апаленых вайной душах, іншых асацыяцый, апрача тых, якія мы вынеслі з вайны, не было. І не магло быць. Разам з намі пакутвалі і нашы настаўнікі. Іншы раз яны на ўроках нямецкай мовы нам расказвалі казкі, розныя гісторыі, здарэнні. Гэта было блізка і зразумела. Прасілі мы іх расказваць і пра іх саміх сябе, як ім жылося ў вайну. Памятаю, Фаіна Ізраілеўна Альтшулер расказвала нам, як яе абакралі ў Маскве, як яна засталася з адной толькі капеечкай у кішэні. І тая ў яе толькі таму ацалела, што забілася ў самы ражок яе кішэні, і злодзей не мог яе там намацаць. І толькі пасля такіх расказаў, спагадаючы настаўніцы, шкадуючы яе, мы згаджаліся вывучаць якое-небудзь нейтральнае нямецкае слова. Скажам "блюм" (кветка), "бляу" (блакітны), "бух" (кніга)... Праўда, з цягам часу, у старэйшых класах, пакрысе адносіны да нямецкай мовы пачалі нейтралізавацца. А вось напачатку ў кожнага з нас быў унутраны бунт і пратэст. Пра гэта павінны ведаць і нашы педагогі, і ўвесь нямецкі народ. Як слова з песні не выкінеш, так і гэты факт з гісторыі не выкрасліш!

## ВЫЗВАЛІЛІ

Мы святкуем Дзень Вызвалення Беларусі. Гэты дзень трохі памятаю і я. Савецкае войска вызваліла Беларусь ад фашысцкай навалы, ад жахаў вайны, уратавала беларускі народ ад фізічнага знішчэння. Усё гэта так, усё гэта праўда. Але што далей пачалося?

Я яшчэ вучыўся ў беларускай школе. Дзеці мае ўжо такой мажлівасці не мелі, хоць ніякай іншай школы я ім не жадаў, як толькі на роднай мове. Вядома, я, як мог, падвучваў дзяцей беларускай мове, беларускасці дома. Але школа была больш магутная за мяне. Не на ўсе тэмы я мог з сваімі дзецьмі, скажам, фізічныя, матэматычныя, гаварыць на беларускай мове. Але нават сутнасць не толькі ў мове... Маіх дзяцей школа адлучала спакваля ад мяне, ад іхніх продкаў, ад нашае гісторыі. Яны вызвалялі іх ад роднай мовы, ад роднай літаратуры, ад роднай песні... Навошта? Дзеля чаго? Што пасля такога вызвалення, а яно было масавае, заставалася беларускаму народу? Фізічнае растварэнне ў больш магутнай нацыі. А практычна знікненне беларусаў з гістарычнага абсягу. То хіба дзеля гэтага нас вызвалялі? Вось гэта мяне – ды і не толькі мяне – турбавала, турбуе праз ўсё маё жыццё. Вызваліць – вызвалілі, але для чаго?

## МЫ ГЭТАГА НЕ ПРАСІЛІ ...

У 1986 годзе я быў адзін з тых дваццаці васьмі, хто падпісаў ліст да да тагачаснага генсека СССР М. Гарбачова, у якім звярталі яго ўвагу на заняпад нацыянальнага жыцця на Беларусі.

З гэтай нагоды праз пэўны час усіх нас, хто падпісаў згаданы ліст, запрасілі ў ЦК КПБ. Апекаваўся намі колішні славуты ідэолаг ЦК КПБ Саўка Паўлаў – хай яму лёгка ікнецца! Не скажу, каб там нас моцна шантажавалі, але не давалі забываць, што мы пад клёшам улады, ва ўладным доме і каб не надта мы тут распярэзваліся, а мы і не распярэзваліся. Проста расказалі, ў які кут загнана наша мова, культура, што далей так не можна, не павінна быць.

Калі расставаліся, Саўка Паўлаў сказаў:

— Спадзяюся, што мы паразумеліся і ад нас пойдзеш без каменя за пазухай!

На што я адказаў:

— А я яго ніколі не насіў і не нашу... І да вас прыходзіў без усялякага каменя. Я адно хацеў, каб мае ўнукі - я паказаў Паўлаву іх фотаздымкі, якія прыхапіў, ідучы у ЦК, — вучыліся ў беларускіх школах, каб для іх родная мова была бы роднай усюды: і дома, у школе, і ў горадзе...

— Так яно хутка і будзе! – запэўніў мяне цакоўскі ідэолаг. – Вашы ўнукі ўжо будуць вучыцца па-беларуску.

І напраўду, з 1986 года пачыналі дзьмуць свежыя павевы. У Менску неўзабаве пачыналі адчыняцца беларускія садочкі, дзяцінцы, школы, і мой старэйшы ўнучак Кастусь, як і абяцаў Паўлаў, пайшоў ужо ў беларускамоўны першы клас. Праўда, пайшоў не ў блізкую ад дому школу імя Янкі Купалы. Гэтая школа, як гэта нядзіўна, рабіла ўсе намаганні, каб не стаць беларускай. І Кастуську давялося хадзіць у 23-ю – з пераходамі праз вуліцы. У гэтай школцы Кастусёк скончыў тры класы на беларускай мове. Затым яго сямейка пераехала жыць у Малінаўку. Кастусёк пайшоў у 209-ую школу. У гэтай ён яшчэ скончыў тры класы на беларускай мове. І вось у сёмым яму ўжо прапанавалі забыцца на сваю беларускую навуку. Яго меншы брацік, Алесік, таксама скончыў тры класы згаданай школы на беларускай мове. Але ў верасні 1998 года і яму сказалі, што школа № 209, як беларуская скасоўваецца...

А хіба ж мы пра гэта некага прасілі?

Не, не прасілі. У нас і не пыталіся. І калі мы выпраўлялі Кастуся і Алесіка ў беларускую школу, то ведалі, што рабілі. І мяняць ім школу не збіраліся. За нас гэта зрабілі іншыя. Вось такая развязка навучэння нашых дзяцей на беларускай мове. ...Дваццаць гадоў я шчырую на тэлевізіі тэлечасопіс "Роднае Слова" ...Дваццаць гадоў барабаню пра нашу мову, каб яе шанавалі, любілі. І вось мне такая падзяка за ўсю гэтую працу... Не мог абараніць нават для сваіх ўнукаў права навучання на роднай мове... З гэтай роспачы думаю: "А ці маю я маральнае права быць далей пры "Родным Слове"?

Гэтая думка мяне вярэдзіць, не дае спакою. Яна і паклікала крык маёй душы на паперу. Я хачу, каб людзі, гісторыя ведала, што Содалі не прасілі іншага навучання. Яно для абодвух – і для Кастуся, і для Алесіка – была з першага класа, нават з садочку, абрана адно – беларускае. А ўсё, што пасля адбылося, гэта ўжо на сумленні рэжыму, які ўсталяваўся на Беларусі, у апошнія гады пасля так званага рэферэндуму. Але рэжым рэжымам, а маральна пакутуем мы. І як не пакутаваць, калі ідэалам тваіго жыцця сталася роднае слова. А тут такая дысгармонія!

*Уладзімір Содаль,*
*Клара Содаль.*

## Вільня беларуская

Днямі я ў чарговы раз наведала Вільню. Казаць, што ўсімі свядамымі беларусамі Вільня ўспрымаецца як родны беларускі горад, — гэта значыць, нічога не казаць. Тыя ж самыя лясы,

Тое самае паветра. Не ведаю, якое паветра ў так званым далёкім замежжы, але даводзілася чуць ад знаўцаў, што паветра ў Амерыцы або Канадзе адрозніваецца ад нашага і не ў лепшы бок.

Мяне ж Вільня прываблівае не толькі сваімі краявідамі, але найперш, тымі людзьмі, якія там жывуць і знаёмствам з якімі я магу толькі ганарыцца. У першую чаргу, гэта Хведар Якубавіч Нюнька. Большага руплíўца на ніве Беларушчыны ў Вільні, сёння, я ўпэўнена, не існуе. Я была запрошана Таварыствам беларускай культуры, якім кіруе Хведар Якубавіч, на цудоўную вечарыну. Толькі дзеля таго, каб паслухаць непаўторныя галасы ўдзельніц беларускага хору, варта было б выправіцца ў Вільню. А мяне, акрамя гэтага, чакалі яшчэ іншыя прыемныя нечаканасці і сустрэчы. У прыватнасці, я мела гонар пазнаёміцца з Вольгай Аляксееўнай Пагудай, жанчынай, жыццёвы шлях якой варты таго, каб аб ім быў напісаны раман.

Не ведаю, як у каго, а ў мяне, калі чую за мяжою беларускае слова, заўсёды надараецца нейкае двайстае пачуццё. З аднаго боку, надзвычай прыемна чуць сваю родную мову, якая не згасла, не згінула нават сярод чужых словаў, чужых звычак. А з іншага боку, боль за мову ў сваёй роднай краіне адчуваецца яшчэ мацней. Бо менавіта тут, на Радзіме, дзе слова беларускае павінна пачувацца гаспадаром, яго ўсё больш і больш папіхаюць чужым ботам.

*Лілея Сазанавец.*


**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 21. 06. 99 г.
Наклад 4500 асобнікаў. Замова № 1597.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 40 000 руб., 3 мес.- 120 000 руб.
***Кошт у розніцу:*** 10 000 руб.